Цана асобнага нумару 17 грошау.

# СЫН БЕЛАРУСА

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 11. Вільня, Нядзеля, 6-га ліпня 1924 г. Год I.

## Новыя законы аб беларусах.

Польскі ўрад на паседжаньні Сойму 1 ліпня падаў даўно запавяданыя тры праекты законаў, якія павінны нармаваць правы ўжываньня беларускае, украінскае і літоўскае мовы ў адміністрацыі, самаўрадах, судох і школах у межах Польскае Рэспублікі.

Мы далей дамо падробны агляд гэтых урадовых праектаў „разьвязаньня пытаньня аб нацыянальных меншасьцях". Цяпер-жа затрымаемся на некаторых мамэнтах гэтае справы.

Перш за ўсё, урадовыя праекты значна звужаюць правы „нацыянальных меншасьцяў", абвешчаныя ў Канстытуцыі. Звужаюць, хаця і *даюць нам права на ўжываньне беларускае мовы ў адміністрацыі, самаўрадах і судох, ды права вучыцца ў роднай мове*, — бо абстаўляюць карыстаньне гэтымі правамі такімі варункамі, якія *даюць дзяржаўнай уладзе магчымасьць зьвясьці іх да нуля*, таксама, як гэта рабілася дагэтуль. I затым трэба напярод сказаць, што *практычных вынікаў* ад урадовых праектаў, калі іх і прыме Сойм, *нам ждаць ня прыходзіцца*: не на тое ў працягу некалькіх гадоў усю польскую адміністрацыю ў Заходняй Беларусі прывучалі да барацьбы з беларускай нацыянальнасьцяй, да сыстэматычнага перасьледаваньня і вынішчаньня ўсяго беларускага, каб гэтая самая адміністрацыя сваімі-ж рукамі адбудовывала тое, што зруйнавала. Мы глыбока пераканаваны, што *пакуль уся тутэйшая адміністрацыя*—да апошняга чалавека—*ня будзе ўзята назад туды, скуль панаехала да нас*, датуль усе прызнаныя нам урадам і Соймам *правы астануцца толькі на паперы*.

Дый з самага зьместу ўрадовых законапраектаў відаць, што аўтары іх і *ня думаюць правадзіць іх у жыцьцё* — прынамся ў найбліжэйшыя гады. Бо-ж паглядзіце самі: польская ўлада *выжыла* вялізарную большасьць беларускіх настаўнікаў, пазачыняўшы ўсе беларускія школы і сваімі рэпрэсіямі прымусіўшы вучыўшых тамака пакінуць родны кут. Значыць, каб можна было адкрываць беларускія школы ўсюды, дзе народ *ужо даўно дамагаецца іх*, істнуючых вучыцельскіх сіл ня хваце. Трэба ўраз-жа пазакладаць вучыцельскія сэмінарыі, дзе ўзгадоўваліся-бы кандыдаты на настаўнікаў беларускіх школаў. Аднак, урадовы праект выразна кажа аб тым, што *толькі новаадкрываныя* дзяржаўныя вучыцельскія сэмінарыі ў палескім, наваградзкім і віленскім ваяводзтвах маюць быць двуязычныя: *польска-беларускія*. Але з прычыны „санацыі" скарбу і зьвязаных з гэтым „ашчаднасьцяў" міністэрства асьветы напэўна ў працягу ня менш пяцёх гадоў *не адчыніць ніводнае новае сэмінарыі*. I вось, каб вучыць у „польска-беларускай" ці нават чыста беларускай народнай школе, даволі будзе... паслухаць год ці два выкладу беларускае мовы ў *польскай* вучыцельскай сэмінарыі, — а які гэта будзе „выклад", аб гэтым ведае найлепш... пан куратар Гонсёровскі і яго калегі з суседніх з Вільняй акругоў...

Варункі, якія пастаўлены дзеля адкрыцьця беларускае школы на вёсцы, *тыя самыя, як і дагэтуль*: трэба, каб гэтага зажадалі бацькі 40 дзяцей. Але практыка паказала, што выпаўненьне гэтых варункаў яшчэ не дае магчымасьці запраўды адчыніць беларускую школу на вёсцы: то п. інспэктар *забраковывае ўсіх кандыдатаў на настаўніка*, то лічыць *неаднаведным памяшчэньне школы*, ды шмат мае іншых спосабаў, каб недапусьціць— *„на законнай аснове"*—закласьці беларускую школу. I што-б ні пастанаўляў Сойм, што-б ні было напісана ў законе,—аканчальнае вырашэньне справы кожнае школы астаецца ў руках тых самых інспэктароў і пад кіраўніцтвам тых самых куратараў, якія сваім галоўным абавязкам лічаць *нішчэньне беларушчыны....*

Паўтараем: мы ня верым у карыснасьць для беларускага насяленьня ад гэных законапраектаў, якія выпрацаваў урад. Мы бачым у выступленьні польскага ўраду з афіцыяльным прызнаньнем правоў нашага народу *выключна палітычны крок*. Мэту гэтага кроку неасьцярожна раскрыў польскі прадстаўнік у Лізе Народаў, п. Сржыньскі, які заявіў надовячы на страніцах аднае швайцарскае газэты, што *пасьля правядзеньня* (—ведама, на паперы!) *нацыянальнае санацыі, Польшча звольніцца ад так няпрыемнага для яе „малога Вэрсальскага Трактату" аб правох „нацыянальных меншасьцяў"*. Але, імення як палітычны крок, падача ў Сойм урадовых законапраектаў, якія *прызнаюць афіцыяльна правы беларускага народу на яго адвечных землях—у ваяводзтвах палескім, наваградзкім і віленскім, ды ў паветах гарадзенскім і ваўкавыскім беластоцкага ваяводзтва* (беластоцкі, бельскі і сакольскі паветы ўрад лічыць „чыста-польскімі"!), *мае вялізарнае значэньне і для нас*. Гэта — вынік тэй стойкасьці і цьвёрдасьці, з якой беларусы Заходняе Беларусі, ня гледзячы на ўсе перасьледаваньні ўладай, змагаюцца за свае права на нацыянальнае істнаваньне. Гэта—*другая ўжо вялікая наша нацыянальная перамога*,—другая пасьля перамогі на выбарах у Сойм і Сэнат.

Няхай-жа наш народ і далей крэпка стаіць на сваім грунце, няхай і далей не паддаецца сваім ворагам, якія заўсёды імкнуліся і будуць імкнуцца да вынішчэньня яго,— *калі не культурнага, дык эканамічнага*. Няхая энэргія нашых нацыянальных барацьбітаў ні на адзін мамэнт не слабеець ад прыемнага пачуцьця маральнае перамогі, ці ласкавага панскага слова. I няхай беларускае грамадзянства не забывае, што зацьверджаньне Соймам тых ці іншых законаў—гэта яшчэ першы крок: каб мець ад іх хоць найменшую карысьць, каб узяць тое, што яны даюць, — трэба за гэта йзноў змагацца, трэба гэта *заваяваць*.

## Урадовыя праекты аб карыстаньні роднай мовай.

Паглядзім, што-ж канкрэтна даюць беларусам тыя тры праекты, аб якіх гэтак трубіць польская публіцыстыка, якія паціху і тайна па цёмных кутох канцэлярыяў міністэрства ўнутраных спраў сфабрыкавалі „сам" п. Тугутт разам з „самым" п. Станіславам Грабскім.

Першы праект—аб мове ўрадаваньня дае права беларусам з ваяводзтваў Палескага, Навагрудзкага і Віленскага, а таксама з паветаў Гарадзенскага і Ваўкавыскага, ваяв. Беластоцкага, падаваць усякія паданьні і наагул весьці ўсякія дзелавыя размовы з усімі ўладамі і чыноўнікамі як I, таксама і II (вышэйшай—ваяводзкай) інстанцыі, ды ўва ўсіх установах самаўраду —на сваёй роднай беларускай мове. (Арт. 2).

На гэтыя паданьні і заявы, пісаныя пабеларуску, улада павінна даваць адказы на пісьме папольску, але, калі ў прашэньні (або можа і на словах) выражана жаданьне атрымаць адказ пабеларуску, дык мусяць адпісаць у двух мовах — польскай і беларускай. Усе гмінныя ўстановы абавязаны адказываць на паданьні, пісаныя пабеларуску, толькі ў беларускай мове. Магістраты вялікіх местаў, як Вільні, Горадні і інш., зусім не абязываюцца гэтым законапраектам, а паступаюць так, як пастановіць аб мове ўрадаваньня мястовая Рада. (Можна быць пэўным, што ніводная мястовая Рада ня пусьціць да свайго магістрату беларускага языка!).

На паседжаньнях гмінных і мястовых радаў, а таксама і паветавых і ваяводзкіх соймікаў на тэрыторыі ўсіх паказаных вышэй ваяводзтваў і паветаў можна будзе свабодна карыстацца беларускай мовай. Толькі вялікія месты ізноў не падлягаюць гэтаму закону, бо іх рады самі вырашаюць аб тым, ці дазволіць беларусам - радным гаварыць пабеларуску, ці забараніць карыстацца роднай мовай. (Арт. 4).

Што датычыць усялякіх абвешчаньняў самаўрадавых уладаў, дык яны павінны быць пісаны папольску, але на другім мейсцы можа быць і тэкст беларускі... Абвешчаньні ўлады дзяржаўнага ўраду будуць пісацца... таксама, як і абвешчаньні самаўрадавыя. У гэтым галоўным выпадку, калі беларускае насяленьне павінна ясна і дакладна зразумець і ведаць, што пішацца ў абвешчаньні, якраз для ўлады, як дзяржаўнай, таксама і самаўрадавай, няма абавязку карыстаца мовай насяленьня у нас, беларускай мовай

Усе ўставы ваяводзкія, а таксама ўсе распараджэньні дзяржаўнай адміністрацыі, якія публікуюцца ў ваяводзкім „Дзеньніку Урадовым", павінны будуць побач з польскім тэкстам даваць і беларускі. (Арт. 5).

Ня маюць абавязку карыстацца пры пісьменных адказах беларускай мовай розныя ўрадоўцы чыгункавых, паштовых і тэлеграфных установаў. Але ў устнай размове з інтэрэсантамі, а асабліва пры білетных касах і паштовых вакенцах павінны і яны, але „паводле патрэбы і магчымасьці" дапускаць беларускую мову.

Вось і ўсё тое, што „даруе" беларусу гэты першы законапраект. Тое самае дае ён, на адносных абшарах, украінцам і літвінам, першым — трохі больш на абшарах Галічыны.

---

Другі законапраект рэгулюе карыстаньне мовай мясцовага насяленьня ў судох і органах пракурорскага нагляду, г. знач.—у камэры сьледчага і г. п.

Староны і сьведкі маюць права карыстацца сваей мовай у-ва ўсіх выпадках судаводзтва, як устна, таксама і пісьменна.

Але, калі адна з старон гэтага зажадае, дык другая старана, якая ўнесла паданьне ці заяву па беларуску, абязана ў пэўным тэрміне далучыць і пераклад на польскую мову.

У пратаколах дазнаньня і судовага сьледзтва ў угалоўных (крымінальных) справах паказаньні абвінавачаных і сьведкаў павінны запісываць, апрача польскага тэксту, таксама і па беларуску, калі гэтага патрэбуе дапрашываны.

Акт абвінавачаньня, на жаданьне падсуднага, павінен быць яму паданы, апрача польскага, і ў беларускім перакладзе.

Староны маюць права патрэбаваць, каб прыгавор быў даны ім у іх матчынай, беларускай мове.

Абаронцы маюць права ў пэўных выпадках карыстацца ў сваіх прамовах мовай вінавачанага.

(Далей будзе).

партыяў—з прычыны 5 гэдзьдзя Вэрсальскага Трактату. Аратары пачалі пратэставаць проці аднабокага абвінавачаньня немцаў ў выбуху вайны.

Пасьля аратары перайшлі да скаргаў на тое, што найлепшыя, найкультурнейшыя нямецкія землі папалі ў польскія рукі, што Нямеччына разрэзана польскім калідорам, што палякі зумысна зьніштажаюць нямецкую культуру, уціскаюць немцаў.

Вялікі народ ня можа дапусьціць, каб яго трактавалі, ды йшчэ ніжэйшыя за яго, як „народ другой клясы".

## Перарыў ці сарваньне польска-радавых перагавораў?

Старшыня радавай дэлегацыі мяшанае камісіі да разрахункаў паміж Польшчай і СССР, Вішнякоў, раптам выехаў у Маскву. Туды-ж выехалі перад тым і ўсе іншыя сябры радавай дэлегацыі. Наагул, ужо даўно паседжаньні камісіі не адбываліся. І вось цяпер польская дэлегацыя на свае ноты не атрымлівае ад радавай нават адказу...

Відаць, Рыжскі Трактат запраўды трашчыць па ўсім швам... — Бо, калі паводле п. мін. Замойскага, „не абязывае арт. 7 Трактату", дык дзеля чаго мае абязываць які-хоч іншы?..

## Англа-расейская канфэрэнцыя.

Мак-Дональд заявіў у парляманце, што ў хуткім часе ён падасьць да ведама і дыскусіі паслоў вынікі англа-радавых нарадаў, якія адбываюцца ў Лёндоне.

## Новая канфэрэнцыя саюзьнікаў.

Як падае Пат, да ўчасьця ў канфэрэнцыі па нямецка-саюзьніцкім справам, як паўнапраўныя сябры, запрошаны толькі пяць вялікіх дзяржаў і Бэльгія. Што датычыць Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі, Румыніі, Португаліі, дык яны будуць праз сваіх паслоў прымаць учасьце толькі ў дыскусіі аб справах, у якіх беспасярэдна зацікаўлены.

## Уваскрасеньне ідэяў Вільсона ў Амэрыцы.

Кампанію на прэзыдэнцкіх выбарах партыя дэмакратаў вядзе пад лёзунгам зьменшаньня падаткаў, перагляду мытных ставак, забароны азіяцкім народам іміграваць у Амэрыку, незалежнасьці Філіпінскіх астравоў і рэалізацыі 14 пунктаў Вільсона.

## Радзіч у Маскве.

Вядомы правадыр харвацкіх незалежнікаў, Радзіч, на якога вядзе праўдзівае „паляваньне" ўрадовая партыя Пашыча (Югаславія), не памёр, як пісалі газэты, але мае ў хуткім часе прыехаць у Маскву, каб дабіцца ад ураду С.С.Р.Р. падтрыманьня яго думкі аб аддзяленьні Харвацыі ад Югаславіі.

## Халера ў Маскве.

З Вены падаюць, быццам у Маскве выбухнула халера ў пагражаючых разьмерах.

## Новы гэрб Літвы.

З прычыны таго, што гэрб „Пагоня" (рыцар на кані), які ўжываўся Вялікім Князьствам Беларуска-Літоўскім і быў узяты ад беларусаў, не выражае асобнасьці сучаснае Літоўскае Рэспублікі, у Коўні распрацовываецца праект новага дзяржаўнага гэрбу Літвы.

## Новы ўрад Мусоліні і апазыцыя.

Да новага ўраду Мусоліні не запрасіў ніводнага сябра партыі фашыстаў. Ня гледзючы на гэта, апазыцыя трымаецца асьцярожна і з недаверыем.

Ніводзін з трох апазыцыйных сябраў прэзыдыуму Парляманту ня быў на ўрачыстым прыёме ў караля.

## Паражэньне гішпанцаў у Марокко.

У гішпанскай калёніі Марокко выбухла новае паўстаньне некалькіх плямён. У бітве гішпанцы мелі вялікія страты, шмат ахвіцэраў забіта.

## Напружаньне у Гішпаніі.

Палітычная сітуацыя ў Гішпаніі, дзе дагэтуль яшчэ пануе правадыр „ваенна-фашыстаўскай партыі", генарал Прымо дэ Рывэра, у зьвязку з новымі паражэньнямі гішпанцаў у Марокко, значна пагоршылася. Гарнізон у Мадрыце павялічаны. Паліцыя ў „баявой гатоўнасьці".

Пасьля Італіі, відаць, на чарзе—Гішпанія.

## Правадыр ірляндзкіх незалежнікаў на волі.

Прэзыдэнт вольнай Ірляндыі Козгрэв пастанавіў звольніць з вастрогу ўсіх байцоў вялікай хатняй вайны за поўнае аддзяленьне ад Англіі з правадыром ірляндзкіх рэспубліканцаў-незалежнікаў дэ-Валерай на чале.

## Арышт камуністычнага зьезду ў Тюрынгіі.

Нямецкая паліцыя ў Тюрынгіі накрыла адбываўшыся ў месьце Эйзэнах зьезд камуністаў. Усе ўчасьнікі зьезду арыштаваны.

## Канфлікт Эгіпту з Англіяй.

Эгіпецкі прэм'ер заявіў ізноў, што Эгіпет ніколі не адрачэцца ад сваіх правоў на Судан (гарысты край, скуль бярэ пачатак вялікая, жывячая ўсю вялізарную даліну Ніла, рака) і выразіў жаль, што ўрад партыі работнікаў ідзе тым самым імпэрыялістычным шляхам, як і папярэднія буржуазныя ўрады.

Прэм'ер падаўся ў адстаўку, бо не атрымаў здаваляючага адказу ад Англіі, але кароль ня прыняў яго адстаўкі.

## Страшэнны ўраган у Амэрыцы.

У штаце Клэвлэнд страшэнным ураганам забіта больш 400 людзей, ранены больш як 2500; зьнішчана маса дамоў. Цэлае места Элірыя—зруйнавана. Усяго налічаюць стратаў больш як 65 міліёнаў даляраў.

# Нота нямецкага ураду у справе ваеннага кантролю.

У сваей вельмі цікавай і важнай ноце нямецкі ўрад перад усім зьбівае тую думку, быццам Эўропе пагражае новы ваенны канфлікт, якой, відаць, кіруюцца саюзьнікі, дамагаючыся ад Нямеччыны ваеннае рэвізіі. Менш за ўсё выбух вайны пагражае з боку разброенага нямецкага народу. У Нямеччыны ёсьць вельмі многа арганізацыяў, якія маюць мэтай фізычнае і духоўнае разьвіцьцё і ўзмацненьне моладзі. Гэтыя арганізацыі замяняюць народу тую школу духовай і цялеснай дысцыпліны, якую давала ваенная служба, забароненая цяпер у патрэбным разьмеры. Але-ж гэткія арганізацыі гімнастыкі і спорту істнуюць ува ўсіх краёх і ня могуць лічыцца „падгатаваньнем войска", бо Нямеччына, як і ўсе іншыя нармальныя дзяржавы, павінна клапаціцца аб узгадаваньні здаровай моладзі. Нямецкі народ адкідае зусім думку аб вайне. Што датычыць тайных арганізацыяў, маючых мэтай узброеньне, дык усе палітычныя чыньнікі згодна лічуць іх шкоднымі і небясьпечнымі перадусім для Нямеччыны і вядуць з імі барацьбу. Нямецкі ўрад абяцуе сам аканчальна разброіць іх.

Пры гэтай аказіі ўрад ня можа скрыць, што сярод нямецкага народу пануе вялікая горыч з прычыны цяперашняга палажэньня Нямеччыны. Гэтае нездаваленьне, зразумела, выражаецца ў пратэстах і дэманстрацыях. У гэтым—нічога дзіўнага. Бо тая жорсткасьць, з якой трактавалі нямецкі народ у працягу ўсіх гэтых гадоў, вырабіла ў ім перакананьне, што яму няма чаго чакаць справядлівасьці ад саюзьнікаў...

Але гэтая горыч ня можа выліцца ў якуюсь ваенную авантуру, бо ваенныя сілы і тэхнічныя засобы Нямеччыны—меншыя, як у найменшай з істнуючых дзяржаваў. Нямеччына ня мае новачэснага аружжа, ад часу міру не зрабіла ані воднай гарматы, мае амуніцыі нават менш таго, што мае права мець паводле Вэрсальскага Трактату. У такім стане разброеньня ня быў яшчэ ніводзін народ. Дзеля таго нямецкі народ ня можа зразумець страху перад яго аружнай сілай, які пануе за граніцай, асабліва сярод тых народаў, якія ня толькі ня зьменшылі свайго ўзбраеньня але, наадварот, яшчэ пастаянна павялічываюць яго...

Апінія нямецкага народу—рашуча проці ваеннага кантролю, бо гэта-ж выразнае ўмяшаньне ў унутраныя справы сувэрэннай дзяржавы. Але ўрад, з прычыны перамены ў адносінах да Нямеччыны новых саюзных урадаў і таго, што апошняя нота гавора ўжо не аб сталым кантролі саюзьнікаў, як дагэтуль, але аб хуткай перадачы кантролю Лізе Народаў, ды што дасюляшняя палітыка гвалтаў мае быць заменена палітыкай паразуменьня,—урад згаджаецца на ваенную рэвізію краю, якая павінна, аднак-жа, адбывацца ў духу поўнага даверыя да нямецкага народу. На гэтае ўва ўсякім прыпадку мае права той край, які бярэцца сумленна выпаўніць прапанаваны экспэртамі плян адшкадаваньня. Урад просіць толькі не адкладаць кантрольнай апэрацыі, якую просіць закончыць да канца верасьня...

Відаць, добра прывыклі саюзьнікі да нямецкага рабства, калі, як пішуць францускія (ці можа толькі польскія) газэты, іх абурыла гэтая нота нямецкага ўраду...

# Новы урад у Літве.

Міністэрскі крызіс у Літве, які цягнуўся са два тыдні, закончыўся ўтварэньнем новага ўраду п. Тумэнаса б. міністра справядлівасьці ў габінэце Гальванаўскаса.

Урад Гальванаўскаса быў вынікам кампрамісу дзьвюх партыяў—хрысьціянскіх дэмакратаў і сялян народнікаў, прычым Гальванаўскас зьяўляўся безпартыйным галавой ураду і міністрам заграмічных спраў, як найляпей з усіх літвіноў ведаючы эўрапэйскія адносіны.

Новы габінэт зложаны выключна з прадстаўнікоў хрысьц.-дэмакратычнай партыі, якая мае ў Сойме „большасьць" 2 галасоў і дзеля таго ня хоча ні з кім паважна дзяліцца ўладай.

Кіраваць краем з такой большасьцю вельмі цяжка, і ў праваным гаспадарстве лічыцца канстытуцыйна немагчымым.

Папярэдні кампраміс выкліканы быў канешнасьцю шырэйшай кааліцыі дзеля правядзеньня кляйпэдзкай кампаніі. Але, пасьля перамогі Літвы на заграмічным полі, літоўскія хадэкі хочуць мець рукі зусім разьвязаныя ў справах унутраных.

Справа ў тым, што, маючы большасьць у Сойме, хадэкі ня маюць, відаць, ужо большасьці ў краі, а бязсумліўна маюць меншасьць на вёсцы, дзе ўплывы захапіўшагася палітыкай духавенства, як і ў Польшчы, катастрафічна ўпалі... І вось якраз цяпер па ўсей Літве павінны адбыцца выбары ў самаўрады. На гэтых выбарах правал хадэкаў—пэўны. І вось у гэтых „гаспадароў палажэньня" дасьпела прыгожая думка—зусім скасаваць самаўрады ў Літве! Замест выбарных самаўрадам уладаў хадэкі на партыйным зьезьдзе пастанавілі, каб урад назначаў начальнікаў паветаў і войтаў, а ўсе паветавыя і гмінныя рады павіны быць распушчаны...

Акурат, як у Польшчы, з тэй толькі розьніцай, што ў Літве самаўрад мае быць проста скасаваны, а ў Польшчы—сфальшаваны.

Вось на гэтым праекце фактычна і ўзьняўся крызіс, бо ані Гальванаўскас, ані народнікі не згадзіліся на гэты дзікі праект.

Падаваная літоўскімі газэтамі спрэчка паміж Гальванаўскасам і хадэкамі быццам то з прычыны ўжыцьця англійскай пазыкі на новую чыгункавую лінію зьяўляецца толькі повадам, бо для хадэкаў было-б вельмі нявыгаднай і непапулярнай прычынай сарваньня кампрамісу справа разгрому самаўрадаў.

Прэзыдэнт Стульгінскі рабіў усё, каб залагодзіць разрыў і пагадзіць хадэкаў з народнікамі, але хадэкі ня прынялі слушных варункаў народнікаў, і кампраміс распаўся аканчальна.

Прапазыцыю Тумэнаса заняць у новым урадзе становішча міністра загран. спраў Гальванаўскас адкінуў рашуча.

Што-ж можа даць новы ўрад?

Перадусім новы ўрад вельмі страціў павагу з прычыны сваей партыйнай аднабокасьці. Партыя народнікаў, маючая. як сказана, вялікія ўплывы сярод сялян, абвесьціла рашучую барацьбу хадэцкаму ўраду. Можна спадзявацца вострых канфліктаў—і ня толькі ў Сойме, але і ў краі.

У адносінах да Польшчы палітыка габінэту Тумэнаса будзе завострана яшчэ больш, бо ўжо Гальванаўскас лічыўся лішне лагодным, а ў новым урадзе будзе мець рашучы ўплыў вядомы паляк, кс. Круповіч: як міністар зямляробства, ён будзе вясьці яшчэ больш рашучую аграрную палітыку коштам польскіх абшарнікаў...

Можа толькі гэтым крайнім завастрэньнем папулярнай у краі проці-польскай палітыкі і здалее ўтрымацца праз нейкі час новы рэакцыйна-партыйны габінэт Тумэнаса.

* * *

Літоўскі Сойм выразіў большасьцю 8 галасоў даверые да новага ўраду, Справа ратыфікацыі Кляйпэдзкай канвэнцыі зьнята з парадку дня ў Сойме. Гэткім чынам аканчальнае вырашэньне ўсіх справаў, зьвязаных з Кляйпэдай, як транзыт Польшчы і г. д., пакідаецца адкрытым.

# Рэпрэсіі проці палітычных вязьняў.

У Беластоцкім вастрозе згуртаваны ўсе палітычныя вязьні з Градзеншчыны — пераважна беларусы. Вось-жа польскай адміністрацыі паказалася недастатачнай карай тое, што людзей пасадзілі за іх палітычныя перакананьні ў вастрог; улада надумала пазбавіць іх тэй дапамогі харчамі, якую яны атрымлівалі ад сваякоў і прыяцеляў. Дзеля гэтага выдалі такі загад: каб прыймаць для палітычных вязьняў „падаяньне" толькі ад тых асобаў, якія прадставяць урадовае пасьведчаньне, што яны—сваякі. Хто такога пасьведчаньня ня мае, ад таго нічога ня прыймаюць.

Надовячы на прынесшых дапамогу палітычным вязьням паліцыя пад вастрогам зрабіла „аблаву". Іх усіх адвялі ў дэфэнзыву і дапытываліся, хто яны, як ім даводзіцца арыштаваны, катораму носяць есьці, і г. д.

Большасьць палітычных вязьняў — гэта беларускія сяляне. Вось-жа ўсім ведама, як трудна ім у валасьці дабіцца якой-колечы паперыны, а тым больш пасьведчаньня ў сваяцтве з „палітычнымі праступнікамі", за якіх лічаць у Польшчы ўсіх, каго толькі паліцыя—слушна, ці няслушна,—у нечым западозрыла.

Такім парадкам загад баластоцкае адміністрацыі роўназначны з пазбаўленьнем палітычных вязьняў права атрымліваць звонку прадукты. Спраўджаецца заява францускіх сацыялістаў аб кармленьні палітычных вязьняў „буракамі"...

Што на гэта пан Тугутт, абаронца гонару польскіх вастрогаў перад Эўропай?!

Нашы паслы павінны востра выступіць проці гэтага новага гвалту над палітычнымі вязьнямі. Бо-ж каму якое дзела да таго, ці я прынясу есьці сваяку, ці толькі прыяцелю?!

Напэўна, ў-ва ўсей Эўропе нічога падобнага ня бывае!

**Просімо ўсіх нашых паважаных грамадзян падпішчыкаў. якія неакуратна атрымліваюць газэту, рабіць спачатку спраўкі на мясцовай пошці, а тады з гатовымі ад яе адказамі зварачвацца да нас.**

**Адміністрацыя.**

# Кара сьмерці.

Дня 30 чэрвеня а гадз. 18, м. 35 Беларускі Клюб атрымаў з Нясьвіжа тэлеграму такога зьместу:

„Прыгаворам Наваградзкага Акружнога Суда, запаўшым дня 30 чэрвеня, а гадзіне 10 1/2 у справе наглай Сяргея Кіселя 22 год, абвінавачанага па 49 і 455 ст. Код. Карн.,— падсудны засуджаны на кару сьмерці. Абвінавачаны быў у тым, што, будучы засуджаны прыгаворам таго-ж суда на 15 гадоў, уцёк з турмы і, намерываючыся прайсьці савецкую граніцу і будучы даганяным паліцыяй, кінуў у іх ручную гранату, хочучы адабраць жыцьцё даганятым.

Дзеля таго, што на судовай расправе галоўны факт кіданьня гранаты у старану паліцыянтаў, як сьцверджана, забезпечнік гранаты, ад якога залежаў выбух, ня быў саўсім адцягнуты, і што другіх безстаронных сьведкаў, апроч пакрыўджаных у гэтай справе паліцыянтаў, сьведчаньні якіх што да напрамку і далёкасьці кіданьня гранаты ёсьць супярэчны, ня было, дзеля таго прызнаньне падсуднага, што граната кінута была ім у часе затрыманьня яго не у паліцыянтаў, а на старану з мэтай пазбыцца гранаты, заслуговывае на веру,—прашу аб падтрыманьні перад Прэзыдэнтам просьбы аб уласкавеньні, зложанай абаронай майго сына Сяргея Кіселя

**Зося Кісель**".

Па атрыманьні гэтае тэлеграмы Старш. Бел. Пас. Кл. пас. Рагуля зараз-жа зрабіў інтэрвэнцыю у Прэзыдэнта.

Аднак нічога ужо ня можна было памагчы, бо ужо Прэзыдэнт зацьвердзіў прыгавор аб кары сьмерці.

# З газэт.

**„Адкруціце вінт!"**.

Пад такім загалоўкам адзін з найбольш „левых" вызваленцаў, пасол Воевудзкі, піша ў газэце „Wyzwolenie Ludu":

> Паблагаслаўлёны ўсімі: правіцай і лявіцай (—толькі не беларусамі! — *Рэд.*), пачаў п. Грабскі „вольнай рукой" закручываць вінт... Пасыпаліся падаткі: грунтовы, маёнтковы, ад даходу, ад спадчыны, на самаўрады (дзе яны ў нас?—*Рэд.*), за страхоўку, кары за тытун, 100 проц. грунтовага, дадатковы на школы, і г. д., і г. д.—што-месяц, што два тыдні... ня ў марачках, але ўжо ў злотых—звалярызаваныя.
>
> Спачатку, пры першых наказах плаціць, мужык цярпліва плаціў; хоць і зямлі мала, хоць за гэныя падаткі ня меў нічога: ані добрае школы (—асабліва беларускае—*Рэд.*), ані дарог, ані ладу ў урадах, ані справядлівасьці,—плаціў, бо спадзяваўся, што, як будуць новыя сталыя грошы, дык усё памалу ўладзіцца і можна будзе далей сыстэматычна весьці барацьбу за зямлю, асьвету і ўладу.

Але зямлі, як вушэй сваіх, беларус у Польшчы ня ўбачыць! А тым часам

> прыходзяць усё новыя наказы плаціць,— ужо не хватае на гэта жабрацкіх заробкаў у дварэ, ужо мала прадаць адарваны ад вуснаў кусок хлеба, зьберажоны коштам дзіцяці кусок сыра, масла, яйко,—прыходзіцца прадаць паршучка, ялоўку, бо падаткі перарасьлі даваенныя.
>
> Вёска пачынае стагнаць, наракаць, варушыцца... Але — мужык цярплівы, мужык плаціць, — дык яшчэ адзін падатак назначаюць, яшчэ адзін дадатак да падатку.

На гэта пасол Воевудзкі з абурэньнем адказвае:

> — Што за чорт, ці вы звар'яцелі, ашалелі, паны міністры?!! З чаго-ж гэта селянін можа далей плаціць? Ці вы думаеце, што мужыцкая дзесяціна 100 пудоў жыта даець? Што кароўка колькі разоў у год родзіць цялят? Што курка залатыя яйке носіць?
>
> Ці хочаце, каб мужык апошнюю кароўку-карміцельку на торг вывеў і за бязцэнак прадаў гандляру? **А што будзе пасьля**?
>
> Вы-бы хацелі, каб мужык плаціў як-найбольш, абы толькі сам з голаду не памер! Вось-жа **яго ўжо да гэтае мэты давялі**.
>
> **Больш плаціць мужык ня можа**! —

Канчае сваю стацьцю п. Воевудзкі перасьцярогай уладзе:

> Ці ня чуеце грознага рокату вёскі? Ці вам нічога ня кажуць выклікаНыя роспачай грозныя здарэньні ў Кольненскім павеце, ці ня думаеце, што яны могуць паўтарыцца і ў іншых мясцовасьцях, **могуць абняць пажарам усё гаспадарства**?
>
> Сяляне маюць ужо даволі такое гаспадаркі і галасам роспачы, а разам і перасьцярогі, клічуць: **адкруціце вінт, бо інакш усё гэта можа блага скончыцца**!

# ХРОНІКА.

**Справа Базыльянскіх муроў у судзе.** Віленскі акружны суд 2-га ліпня разглядаў справу канфіскацыі польскім урадам нярухомае маемасьці праваслаўнага духавенства (дамоў) у Вільні. Да лічбы гэтых „нацыяналізаваных" дамоў належаць і так-званыя „Базыльянскія муры" (гмах б. Базыльянскага манастыра пры Вострабрамскай вул. № 9), дзе месьціцца Беларуская Гімназія, Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя, Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча, Беларускі Прытулак для сірот і г. д. У суд справа пайшла з прычыны жалабы Праваслаўнае Кансысторыі на незаконнасьць „нацыяналізацыі".

Ад імя Кансысторыі выступаў вядомы віленскі адвакат Врублеўскі і праўны дарадца Кансысторыі, адвакат Казлоўскі. Абарона прадставіла рад бязспрэчных доказаў таго, што Базыльянскія муры і некаторыя другія гмахі ніколі ня былі сканфіскаваны расейскім урадам, што давала-бы польскаму ўраду права адабраць іх у сучасных уласьнікаў. Проста, як казаў адв. Врублеўскі, народ наш зьмяняў веру: з праваслаўных яго перавярнулі ў уніятаў, з уніятаў—ізноў у праваслаўных, але-ж людзі ўвесь час аставаліся тыя самыя, і гэныя дамы прадстаўляюць і заўсёды прадстаўлялі іх супольную, грамадзкую маемасьць.

Супраць довадаў адв. Врублеўскага, што „нацыяналізацыя" адносна да значнае часьці дамоў праваслаўнага духавенства — неабаснована, прадстаўнік ураду ня мог даць ніякіх паважных аргумэнтаў.

Суд вынясеньне прыгавору адлажыў, запрапанаваўшы адв. Врублеўскаму падаць свае довады на пісьме.

**Выясьненьне аб польскай марцы.** Як мы ўжо пісалі, ад 1 ліпня польская марка перастала быць праўным грашавым знакам. Гэта значыць, што скасаваны **абавязак** люднасьці Польшчы прымаць маркі.

Але-ж гэта зусім ня значыць, што маркі трацяць сваю вартасьць і што іх ня трэба і нельга прыймаць. Да 1 сьнежня маркі можна выменяць на злотыя ўва ўсіх аддзелах Польскага Банку, у Скарбовых Касах, а пасьля 1 сьнежня гэтага году аж да 31 траўня 1925 году можна будзе замяняць маркі на злотыя толькі ўжо ў Цантральнай Касе і ў Польскім Банку ў Варшаве.

Пасьля 31 траўня 1925 г. маркі ўжо аканчальна трацяць усю сваю вартасьць, і тады ўжо іх прыймаць нельга будзе.

Варта падкрэсьліць, што заместа выменіваньня маркавых грошаў можна да 1 сьнежня **плаціць усе падаткі гэтымі маркамі**.

Гэта нават выгадней з усіх бакоў: ня трэба фатыгавацца да найбліжэйшай касы, ды апроч таго не прападаюць дарма „канцоўкі", — бо пры абмене марак на злотыя касы бяруць толькі круглыя сумы па 18.000 марак, роўныя 1 злотаму, а рэшту зьніштажаюць. Пры аплаце падаткаў павінны браць усякія паперкі.

# Фальшаваньне беларускае работы.

Каб разьбіць адзіны беларускі фронт у Заходняй Беларусі, як антыпольскі, сфэры надта блізкія да Мін. Унутр. Справаў у Варшаве прыймаюць крокі да нарыхтаваньня на т. зв. Kresach Wschodnich працы беларускай, угадовай у адносінах да польскай палітыкі на нашых землях.

З гэтай мэтай мае быць створаны ў Горадні аддзел „Komitetu Obrony Kresów Wschodnich" у складзе былых „беларускіх актывістаў" на чале з п. Фёдаравым. Праектуецца выданьне аж двух газэт на беларускай мове — адна зусім польская па духу, а другая з нахілам нібы трохі крытычным у адносінах да Польшчы.

Можам зазначыць згары, што гэткая праца і яе кірунак, намячаны ў Горадні, будзе надарэмны, бо як ня рады наш селянін беларускаму друкаванаму слову, аднак ён ужо надта добра разьбіраецца, што чым пахне і куды вядзе, і дзеля гэтага польскія газэты ў беларускай мове жаднай карысьці не прынясуць у нас для палітыкі польскай. Усё гэта—марная трата грошай, а калі ўсякія Фёдаравы і іншыя безпрынцыповыя людзі ідуць на гэткую працу, дык мусіць з аднэй толькі прычыны—жаданьня зарабіць на палякох.

Ведаем мы дасканальна, што п. Крачкевічу з Горадні (ul. Puszkińska № 28) ужо прапанавалася ў Мініст. Унутр. Спраў выданьне газэты ўгадова-польскай на расейскай мове ў Горадні, але гэтая справа нешта затамавалася, бо прапанаваная сума нібы не задаволіла пана Крачкевіча.

Цікава, хто з гэтых паноў згодзіцца на выданьне памянёных газэт, хто каго выпярэдзіць?

# Весткі з вёскі.

## Радашкавічы.

(*Ад уласнага карэспандэнта*).

У цішы мястэчковага жыцьця, удалёчку ад вялікшых культурных цэнтраў, беларускі спэктакль заўсёды будзіць вялікае зацікаўленьне і прыцягвае шмат публікі. Гэтак было і з спэктаклямі, на якіх выступаў прыехаўшы з Вільні п. Фр. Аляхновіч.

Беларускія спэктаклі ў Радашкавічах з гастролямі п. Аляхновіча — гэта заслуга тутэйшай беларускай моладзі, якая ўжо трэці раз выклікала з Вільні драматурга-актора. Летась быў пастаўлены „Пан Міністар", камэдыя-сатыра Фр. Аляхновіча з учасьцем самога аўтара. Кажуць, што гэта была прэм'ера п'есы, якая раней пабачыла сьвятло рампы тут, чым у Вільні. У зімку мы бачылі п. Аляхновіча ў двух п'есах: у „Дрыгве" ў ролі Галубоўскага і ў „Птушцы шчасьця" ў ролі Янкі.

15-га і 16-га чэрвеня г. г. йзноў адбыліся два спэктаклі: ставілі „Паўлінку" Купалы, у якой той самы гастралёр гуляў роль Быкоўскага, і „Страхі жыцьця" Аляхновіча, у якіх аўтор гуляў роль Сымона. У першай п'есе здабыла сабе агульную пахвалу маладая вучаніца, гуляўшая роль Паўлінкі (здаецца, што першы раз на сцэне).

На другім спэктаклю сеяў жудасьць на салі сваей гульнёй п. Аляхновіч. П'еса („Страхі жыцьця") поўна гэткіх запраўдных страхаў жыцьця, што трэба мець надта сільныя нэрвы, каб глядзець на цяжкія перажываньні няшчаснай сям'і бяз дрыготкі. І аўтар-мастак даў у сваей ролі больш, чымсь мы спадзяваліся. Пасьля камічнага „Міністра", пасьля няшчасьненькага рэстараннага п'яніцы—музыкі Галубоўскага, пасьля вясёлага Янкі і дурнаватага Быкоўскага мы пабачылі п. Аляхновіча ў ролі трагічнай у поўным значэньні слова. І няма дзіва, што аўтара-актора пасьля трэцяга акту захопленая публіка шмат разоў выклікала і засыпала кветкамі. Абедзьве п'есы былі добра падгатоўлены, і ўсе іншыя ролі таксама былі выпаўнены старанна.

Наагул трэба сказаць, што беларускі тэатр здабыў ужо сабе грунт на правінцыі і мае сваю публіку. На-жаль, у суседніх мястэчках дагэтуль яшчэ не наладзіліся беларускія спэктаклі. Трэба думаць, што і Гарадок, і Краснае, і Ракаў ды інш. з радасьцю сустрэлі-б беларускі тэатр. Добра было-б, каб гэтая самая радашкаўская моладзь, калі ўжо не хапае ініцыятывы на мясцох, зрабіла-бы тэатральны аб'езд суседніх мястэчак, як ужо раз з удачай прабавала рабіць.

У канцы трэба адзначыць кур'ёзны факт: каб атрымаць ад вялейскага старасты дазвол на беларускі спэктакль, трэба ўсю п'есу... пераложыць раней на польскую мову.

Сьмех бярэ! Ці не заняліся-б гэтай справай нашы паны Паслы?! **Сц. Мул.**

## Арыштаваньне бандытаў.

ПАТ падае, што 15 г. м. ў Стаўпецкім пав. паліцыя захапіла 14 асобаў, якіх падазраваюць у бандыцкіх нападах. Сцьверджана (кім і як?), што спасярод арыштаваных 10 належала да банды, якая зрабіла многа нападаў у пав. Нясьвіжскім, Слонімскім і Стаўпецкім. Даказана (чым і як?.. Ці-ж быў ужо суд?..), што спасярод арыштаваных 6 прыймалі ўчасьце ў нападах, 4 памагалі.

Гэта—першы выпадак захопленьня на Усходніх Крэсах адразу цэлай банды.

# З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Выпуск Беларускага Унівэрсытэту ў Менску.

„Dzien. Wil." падае, што Белар. Унівэрсытэт у Менску ў гэтым годзе скончылі 98 т. зв. „рабфакаўцаў"—гэта значыць студэнтаў работніцкага факультэту. З іх, лічыць газэта, 74 жыды, 32 беларусы і 2 іншай нацыянальнасьці.

Але-ж гэта разам выходзіць ужо аж 108, а не 98?!

# На прэсовы фонд „С. Б.".

| | |
|---|---|
| Ад дэпутатаў Валошына і Мятлы за кніжкі, прададзеныя 29/VI. на мітымгу ў Ячне, Сакольскага павету — — — — — — | 9 зл. 3 гр. |
| Ад дэпутата Валошына за забраныя кнігі для пашырэньня на наступных мітынгах— — — — | 19 зл. 30 гр. |
| Усяго — | 28 зл. 33 гр. |

# Наша пошта.

**П. Сьвірыдзе.** 10.000.000 м. п. атрымалі. Дзякуем. Адрас папраўлены.

**Гр. Трэпка.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

**В. Катовічу.** 5 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

**М. Гаворку.** Атрымалі. Скарыстаем у чародным нумары.

**А. М. Санеўскаму.** Будзе зьмешчана ў чародным нумары.

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.